

*Зазвані моцна, звон, загудзі,*
*Каб пачулі цябе на ўвесь край,*
*Беларуса хутчэй разбудзі,*
*Хоць цяпер яму спаць ты не дай!*
*Міхась Чарот*

№6 (13) СНЕЖАНЬ, 2004 | МАГІЛЁЎСКАЕ ШКОЛЬНАЕ ВЫДАННЕ | ГОД ЗАСНАВАННЯ 2002

Певень гультаёў не любіць стар. 2

Як сапсаваць свята сабе і іншым стар. 8

OSIMIRA – МУЗЫКА ЧАЛАВЕКА І ПРЫРОДЫ стар. 6

## З Новым 2005 годам!

**Да Новага году засталося мала. Хаця лепш сказаць, зусім мала. Вуліцы нашага гораду нагадваюць аб гэтым на кожным кроку.**

Усё часцей на вітрынах крамаў можна бачыць работнікаў, якія шчодра іх упрыгожваюць. Агні лямпачак мільгаюць з усіх бакоў. Вокны школаў залепленыя папяровымі сняжынкамі да самага верху. Людзі, пераняўшыся святочным настроем, гуляюць па горадзе ў шапках Дзеда Мароза і з коскамі Снягуркі. Цацкі і мішуру на ялінку можна купіць даслоўна ў кожнай краме сувеніраў, універмагах, падземным пераходзе. Таксама мноства фігурак снегавікоў, ялінак, Санта-Клаусаў, анёлаў, сімвалаў наступнага году, зробленых з фарфору, гліны, пластыка.

У вялікіх крамах і гандлёвых цэнтрах часта праводзяцца акцыі, гульні, латарэі ў гонар Новага году. У Цэнтральным універмазе, напрыклад, час ад часу Дзед Мароз раздае дзецям цукеркі і віншуе са святамі. Амаль што усе Дамы культуры, Тэатр лялек рыхтуюць святочныя праграмы для зусім маленькіх і тых, хто пастарэй. У цэнтры гораду з’яўляецца шмат яркіх афішаў і транспарантаў. Ялінкі ўстаноўленыя не толькі на галоўных плошчах Магілёва, але нават у дварах.

Наш горад знадворку практычна гатовы ўвайсці ў Новы год. Засталося толькі дачакацца снегу, каб дарэшты адчуць надыходзячыя падзеі. Шчаслівага Новага году!

**Вольга Навіцкая**

## Лепшы падарунак ад Міністэрства адукацыі

**Магілёўская гарадская гімназія №1 паспяхова прайшла атэстацыю. 16-га снежня 2004 году яна была атэставаная дэпартаментам кантролю якасці адукацыі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.**

Падрыхтоўка да атэстацыі пачалася амаль што з пачатку навучальнага году. У кастрычніку – лістападзе пачаліся кантрольныя па тэкстах адміністрацыі. Яны прайшлі па ўсіх профільных прадметах. Працы і тэксты кантрольных дасылаліся ў Менск. Меркавалася, што школу наведае менская камісія, але завіталі толькі некалькі чалавек з абласнога аддзелу адукацыі. Яшчэ прыязджаў у гімназію міністр адукацыі, але аб гэтым вучні даведаліся толькі пасля. Адным словам, усё было не так страшна, як гэта ўяўлялася адміністрацыяй і настаўнікамі.

Міністэрства адукацыі плануе правесці праверку якасці адукацыі ўва ўсіх школах у новым годзе. Як адзначыў намеснік міністра адукацыі спадар Казімір Фарына, супрацоўнікі міністэрства маюць праверыць працу адміністрацыяў навучальных установаў, апякунскіх радаў, якасць харчавання, адпаведнасць усім патрабаванням і тэхнічным стандартам саміх будынкаў.

У асноўным будуць прад’яўленыя такія патрабаванні, як наяўнасць адукацыйнай базы, тэхнічных сродкаў, поўная камплектацыя штату, наяўнасць кабінету псіхалогіі і лекара, спартовых будынкаў.

**Мікалай Паслядоўнік**

## Светлы, вечны ўспамін...



**22-га снежня 2004 году адышоў у вечнасць Валянцін Ермаловіч, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь, мастацкі кіраўнік і галоўны рэжысёр народнага беларускага тэатру “Валянцін”, актор, настаўнік.**

**Да апошняга часу св. пам. Валянцін Ермаловіч, незважаючы на свой сталы век, не спыняў грамадска-карыснай працы, кіраваў народным тэатрам “Валянцін”, у актыве якога больш дзесяці пастановак твораў беларускіх драматургаў. Усе спектаклі - на беларускай мове, бо менавіта ў ейным адраджэнні мастак бачыў яшчэ адно сваё прызначэнне.**

**Рэдка шчасціць сустрэць на свеце людзей з такімі высокімі маральнымі якасцямі, якімі абдарыў Бог св. пам. Валянціна Ермаловіча. Гэты шчыры, тактоўны, уважлівы беларус прыцягваў да сябе людзей, як магніт. Такім і застанецца ў нашай памяці. Такімі як ён – працавітымі і жыццяздольнымі, адданымі і надзейнымі, справядлівымі і непахіснымі – жыла і будзе жыць Беларусь...**

**Хай жа сняцца яму там, на лепшым баку, райскія сны пра любую Беларусь, якой ахвяраваў ён усё сваё жыццё.**

**Вечная Памяць!**

**Рэдакцыя “Звону”**

## Дзякуй немцам за ялінку!

**Цікава, што б мы ўпрыгожвалі зараз, калі б немцы не ўвялі калісьці ва ўжытак калядную ялінку?**

Насуперак распаўсюджанай думцы, быццам звычай упрыгожваць дом на Каляды зелянінай прыйшоў з англасаксkіх дзяржаваў, немцы прыпісваюць вынаходніцтва каляднай ялінкі Нямеччыне, а менавіта - Марціну Лютэру. Быццам бы ён неяк прагульваўся ўзімку па вуліцы ў ясную ноч і быў уражаны чароўным відовішчам: над прыцярушанай снегам ялінкай ззяла зорка, якая нібыта апусцілася на верхавіну дрэва.

Можа, гэта проста прыгожая легенда. І ўсё ж такі нядаўна нямецкія навукоўцы знайшлі пісьмовыя доказы, якія адносяцца яшчэ да XVI ст., з якіх відаць, што маленькія ялiначкі, упрыгожаныя яблыкамі і ласункамі, раней за ўсё з’явіліся ў нямецкай правінцыі Эльзас, якая зараз знаходзіцца ў складзе Францыі. У самой жа Нямеччыне даўней ялінку падвешвалі да столі, часам нават верхавінкай уніз, ці нават упрыгожвалі букавае дрэўца.

Наогул жа, большасць гісторыкаў і этнографаў сёння пагаджаюцца, што каляднае дрэва з’явілася ў Нямеччыне яшчэ ў Сярэднявеччы. Толькі было яно тады не зусім калядным, бо ставілася не 25-га, а 24-га снежня - у дзень, калі па царкоўным календары ўспамінаюць Адама і Еву, першабацькоў роду людскога. Упрыгожаная яблыкамі ялінка ўвасабляла райскае дрэва пазнання дабра і зла. Акрамя яблыкаў на ялінку вешалі вафлі – зусім свецкі, хатні адпаведнік ужыванага ў царкоўным абрадзе прычашчэння белага хлебу, памяць аб дараванні Збаўцам грахоў роду людскога.

Немцам не адкажаш і ў фантазіі: у тым самым пакоі, што і калядная ялінка, яны майстравалі і “калядную піраміду”, што сімвалізуе біблейную пячору, дзе адбылося пакланенне вешчуноў дзіцяці Ісусу. Піраміда ўяўляла сабою трохкутнюю канструкцыю з дрэва, на палачках якой стаялі розныя фігуркі, ляжалі галіны вечназялёных дрэваў, гарэлі свечкі, а верхавіну ўпрыгожвала “батлеемская зорка”. Пазней бюргеры, відаць, вырашылі замяніць два святочныя рытуалы адным - аддалі перавагу ялінцы. Да слова кажучы, вафлі таксама былі замененыя розным печывам, а сімвалам ахвярапрынашэння Хрыста сталі запаленыя свечкі.

Зараз аб свечках: нямецкія навукоўцы высветлілі, што на калядным дрэве іх сталі запальваць якраз у 1708 годзе. Дзесьці праз 70 год І.В.Гётэ ў “Пакутах маладога Вертэра” згадвае звычай запальваць свечкі як зусім звычайнае: “Яна прыводзіла ў парадак цацкі, якія падрыхтавала да свята сваім малодшым братам і сёстрам. Ён загаварыў аб тым, як узрадуюцца малышы, і ўспомніў тыя часы, калі нечаканая адчыненыя дзверы і відовішча ўпрыгожанай ялінкі з васковымі свечкамі, прысмакамі і яблыкамі прыводзіла яго ў невыказнае захапленне...”

**Ксенія Савіцкая**

## Ялінкі нашага Магілёва

**Хутка Новы год... Яго ны надыход няўлоў на лунае ў паветры, усе людзі чакаюць нечага новага, прыемнага і незвычайнага.**

Надыход гэтага цудоўнага свята відаць па ўсім - па вітрынах шматлікіх крамаў, якія блішчаць рознакаляровымі гірляндамі, па святочным настроі магілёўцаў, а таксама па ялінках, шмат якіх з’явілася ў нашым горадзе.

Галоўнай ялінкай Магілёва лічыцца тая, што знаходзіцца зараз на плошчы Леніна. Як і летась, гэтая 28-метровая прыгажунька змантаваная з цяжкай і трывалай металічнай зборнай канструкцыі, на якую мацуюцца 120 невялічкіх натуральных ялічачак. З верхавіны і да самага нізу вадаспадамі коцяцца тысячы рознакаляровых яркіх агеньчыкаў: чырвоных, блакітных, зялёных... Выгляд галоўнай ялінкі не змяняецца ўжо шмат гадоў, але яна дагэтуль збірала і, спадзяюся, будзе збіраць вакол сябе шмат дзяцей і дарослых. Гэтая ялінка і сапраўды - каралева!

Другая гарадская ялінка знаходзіцца ля кінатэатру “Радзіма”. Яе, напэўна, таксама ўжо заўважылі ўсе магілёўцы. Гэтая зялёная прыгажуня, як і ні дзіўна, ненатуральная і трошку меншая за галоўную ялінку Магілёва - мае 15 метраў у вышыню. Ялінкі ў цэнтры сапраўды выклікаюць захапленне.

Зусім інакш выглядаюць навагоднія ялінкі на ўскраінах горада. Усяго па мікраёнах і каля палацаў культуры было ўстаноўлена каля 50 навагодніх ялінаў. Але далёка не ўсе яны маюць святочны выгляд. Шмат ялінак не толькі не выклікаюць эстэтычнай асалоды, але на іх нават не вельмі прыемна глядзець. Некія ялінкі крывыя, нязграбныя, безгустоўныя... Але ж усё роўна нават гэтыя дрэвы робяць настрой святочным.

Што ж тут зробіш? Незважаючы на гэта, Новы год - цудоўнае свята, на якое ўсе чакаюць. Жадаю вам, каб вы сустрэлі яго разам з добрымі людзьмі і каля найпрыгажэйшай, на ваш погляд, ялінкі.

**Надзея Лапкіна**



# Певень гультаёў не любіць

**З 9-га лютага 2005 году па 28-га студзеня 2006 году - год Сіняга Драўлянага Пеўня**

**Год Пеўня - суровы год. Усім трэба шмат працаваць, каб забяспечыць жыццё, грошы ў гэты год не зваляцца з неба без высілкаў. Беспрацоўе, рызыка злоўжываннямі. Гэты год спрыяльны ваеннай кар'еры. Верагодныя ваенныя рэформы ў імя парадку. Год Пеўня прыносіць задавальненне ў працы, добрую плату за працу і поспех у грамадскіх справах.**

Певень, як лічаць японцы, - птушка, якая любіць лісліваць і часта дэманструе сябе агрэсіўна. Ён эгаістычны, выхвальны і самаўпэўнены. Таму ў надыходзячым новым годзе варта паводзіць сябе смела і настойліва, не даючы Пеўню ўзяць над вамі верх. Аднак Певень адкрыты. Таму на цягам году ў вас наўрад ці ўзнікнуць нейкія непаразуменні, усё будзе ясна і зразумела, без намёкаў і лішніх словаў. Яшчэ адна асаблівасць Пеўня - нязменнае дзеянне.

Сёлета Певень будзе больш лаяльны да працаўнікоў, а гультаёў адцісне на задні план. Працуйце, дзейнічайце, але ні ў якім разе не рызыкуйце! І Певень будзе на вашым баку! Найбольшага ўзаемаразумення ў новым годзе Певень можа дасягнуць з Быком, Змяёй, Драконам.

## Сервіроўка стала

Каб дагадзіць новаму ўладару, трэба ўва ўсім ісці ўслед за прыроднымі прыхільнасцямі. Напрыклад, вылучыць яркі посуд і мноства ўпрыгажэнняў. Але ад авангарду і элементаў андэграунду лепш адмовіцца. Бо задача Пеўня - клопат аб сваёй сям"і ды падтрымка парадку ў доме. Таму ён кансерватыўны і шануе традыцыі. Класічны кансерватыўны дызайн значна больш прывабны для Пеўня. Зрэшты, стыль «кантры» Пеўню таксама вельмі спадабаецца.

Сустракаць Новы год - год Пеўня, лепш у пакоі з драўлянымі або плецёнымі прадметамі інтэр'еру. На стале цалкам слушнымі будуць кошычкі, посуд з дрэва, вырабы з ратанга. Невялікая колькасць посуду са шкла, якое сімвалізуе дружалюбную для дрэва водную стыхію, таксама стане спрыяльным спалучэннем. А вось вырабы з металу лепш скарацiць да мінімуму. Добра будзе гарманіраваць з энергетыкай надыходзячага 2005 году посуд з фаянсу, парцаляну і керамікі, паколькі сам сімвал Пеўня ўвасабляе стыхію зямлі.

Рыхтуючыся да сустрэчы Новага году, у тым ліку кітайскага, не скупіцеся, набудзьце якасны, дарагі посуд, упрыгажэнні і прадметы інтэр'еру.



## Што апрануць?

Каб адчуваць сябе камфортна ў год Драўлянага пеўня, неабходна атачыць сябе раслінамі і насіць рэчы, у якіх прысутнічае зялёны колер. І зусім певень любіць яркую вопратку, таму сустрэць Новы год астролагі раяць абавязкова ў вопратцы яркіх тонаў. Сустракаць год Пеўня зусім неабавязкова ўва ўсім сінім або зялёным. Цалкам дарэчы змешванне стыляў у гарнітуры і яркая каляровая гама - апельсінавы, фісташкавы, салатавы, лімонны. Наймаднейшы колер - аранжавы. Другі па папулярнасці - ярка-зялёны. Трэцяе месца падзяляюць сіні ды ліловы. У навагоднюю ноч Вам трэба ламаць галаву не гэтулькі над тым, дзе вылучыць гатовы камплект, колькі над складаннем гарманічнага ансамблю з рэчаў, якія нікому не прыйдзе ў галаву насіць разам!

Мілым жанчынам не трэба забывацца на каштоўнасці. Бо менавіта яны з'яўляюцца магутнымі талісманамі і будуць засцерагаць нас цягам году. Асабліва прыдатнымі будуць упрыгажэнні з буйнымі рознакаляровымі камянямі або стразамі.

Больш удачлівыя будуць сёлета людзі з зялёным колерам вачэй. Але калі ў вас вока іншага колеру, вы можаце надзець у Навагоднюю ноч лінзы з зялёным адценнем.

І галоўнае, не забудзьцеся, у год Пеўня грабеньчык у кішэні забавязаны мецъ нават абсалютна лысы!

**Падрыхтаваў**
**Віталь Ругайн**

# Адраджэнне польскасці – перадусім!

**На тэрыторыі нашай Бацькаўшчыны з даўніх часоў жывуць, акрамя беларусаў, палякі, літоўцы, татары, жыды, рускія, цыганы, іншыя народы. Але зараз мы ўзгадаем толькі палякаў-магілёўцаў і адраджэнне польскага жыцця ў Магілёве.**




Няможна вывучыць гісторыю і культуру Беларусі без вывучэння гісторыі і культуры народаў, якія былі і ёсць нацыянальнымі меншынямі на нашай Бацькаўшчыне. Па-рознаму складваліся лёсы гэтых народаў, але адпаведна адно – яны зрабілі паважны ўклад у фармаванне і развіццё беларускага народу.

Палякі здаўна жылі на Беларусі. І польская гісторыя, культура моцна перапляліся з гісторыяй і культурай беларусаў. Нездарма у свой час на савецкай (усходняй) частцы Беларусі, дзе знаходзіўся таксама і наш Магілёў, былі чатыры дзяржаўныя мовы (беларуская, польская, жыдоўская і руская). Палякі і беларусы прайшлі агульны цярністы шлях, маюць шмат агульных нацыянальных герояў, пісьменнікаў, кампазітараў і г.д. Разам зазналі нацыянальны прыгнёт і гвалтоўную русіфікацыю, але захавалі сваю самабытнасць на Беларусі.

Зараз ідзе агульны працэс адраджэння, але калі казаць пра аднаўленне польскага жыцця на Беларусі, дык трэба зазначыць, што вельмі шмат страчана. Страчана раз і назаўсёды. А гэта азначае, што бяднейшай стала не толькі польская культура, а і беларуская.

Незважаючы на тое, што Магілёў ляжыць далёка ад межаў Польшчы (больш за 500 км), тут можна яшчэ знайсці шмат польскіх слядоў. Асабліва відаць гэта на каталіцкіх («польскіх») могілках, дзе на надмагіллях можна адшукаць шмат польскіх прозвішчаў. На некаторых помніках відаць выгравіяваныя прозвішчы варшаўскіх майстроў…

У Магілёве ўжо даўно ёсць польская грамада. Можна казаць, што яна была слабая або моцная, шматлікая або маламлікая – розныя ёсць погляды, але палякі былі ў Магілёве здаўна. Яшчэ ў 1930-х гг. была ў Магілёве 7-гадовая школа з польскай мовай выкладання. Пазней шмат палякаў як з самаго Магілёва, гэтак і з навакольных мясцінаў былі вывезены ўглыбкі Савецкага Саюзу. Аднак бальшыня засталася тут і таму слядоў польскасці замесці зусім не атрымалася. 80 км ад Магілёва знаходзіцца Орша, якую на старонках свайго рамана ўвекавечыў Генрык Сянкевіч.

Яшчэ бліжэй да Магілёва знаходзіцца в. Леніна (Lenino) – месца, моцна ўкаранелае ў памяці палякаў. Яно нарэшце дачакалася польскіх могілак і помніка. Мала хто таксама ведае, што недалёка ад межаў Магілёўскай вобласці, у в.Катынь пад Смаленскам, разыгралася адна з найбольшых трагедыяў II Сусветнай вайны – тут былі закатаваныя 4.000 польскіх афіцэраў, узятых у палон Чырвонай Арміяй падчас «вызвалення» Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны ў верасні 1939 году.

Што ж датычыць польскага жыцця ў Магілёве зараз, дык яно патрошку адраджаецца. Ёсць у палякаў і свой асяродак. На гэтым будынку так і напісана – **Dom Polski**. Месціцца ён недалёка ад касцёлу Св. Станіслава на вул. К. Лібкнехта,3 і з дня свайго адкрыцця ў 1996 годзе з'яўляецца сапраўдным ўпрыгожаннем гэтай часткі Магілёва. Калі патлумачыць адным сказам, што такое Дом Польскі, дык гэта невялічкі асяродак пальшчызны, свайго роду клуб аматараў польскай мовы, культуры і з гэтым усё звязанае.

Дом Польскі мае ўласную бібліятэку, якая можа пагаварыцца ўжо пэўнай колькасцю польскіх кніжак. Амаль што ўсе кнігі паходзяць як з падарункаў пэўных установаў, так і з падарункаў прыватных асобаў. Сталае ўзбагачэнне кнігазбору – заданне не толькі бібліятэкаркі, але і ўсіх сяброў Саюзу палякаў на Беларусі (далей – СПБ) у Магілёве. Кніжкі для дзяцей і слоўнікі заўжды карыстаюцца найбольшым попытам.

Ад самага пачатку існавання Магілёўскага гарадскога аддзелу СПБ (1991) сістэматычна праводзяцца курсы польскай мовы. Ёй вучацца на моўных курсах ў Доме Польскім не толькі дарослыя, але і малыя дзеткі. Апрача таго, вядуцца заняткі ў класах з польскім ухілам у СШ №2. У дзіцячых садках №34 і №81 выхоўваюць любоў да пальшчызны ў польскіх групах. Праводзяцца заняткі ў МДУ імя А.А.Куляшова і Палацы школьнікаў. Балазе, ёсць высокакваліфікаваныя настаўніцы польскай мовы з Польшчы. Вывучэнне польскай мовы – адна з найважнейшых задачаў польскай грамады ў Магілёве. Бо мова – гэта самасвядомасць, гонар і душа народу. Касцёл Св. Станіслава таксама спрыяе адраджэнню пальшчызны ў Магілёве – тут адпраўляюцца службы не толькі па-беларуску, але і па-польску. Нездарма ж даўней казалі: «Polak przede wszystkim katolik» («Паляк – перадусім каталік»)…

Калі казаць пра колькасць палякаў, якіх аб'ядноўвае Дом Польскі, дык яго дзверы заўжды адчыненыя для ўсіх. Сюды прыходзяць людзі ў розных пытаннях. І неабавязкова палякі. Нават у Статуце Дому Польскага няма таго, што чалавек забавязаны мець польскае паходжанне. Там ёсць людзі, што зусім не маюць польскіх каранёў, але цікавяцца польскай мовай, польскай культурай. Калі казаць аб колькасці тых, хто непасрэдна мае адносіны да Дому Польскага, гэта значыць з'яўляецца сябрам Дому Польскага, дык гэта ад 100 да 150 чалавек. Але колькасць – не заўсёды якасць. Нашмат важней для Дому Польскага – культурна-асветніцкая праца і мерапрыемствы, якія старанна ладзяцца, каб Дом Польскі існаваў і жыў.

Як кажа дырэктар Дому Польскага спадар Ежы Жаравовіч: «Зараз у Магілёве жыве каля 2.000 палякаў «паводле пашпарту». Але хто-ніхто з гісторыкаў, напрыклад, ацэньваюць нешта каля 30.000 магілёўцаў, што маюць якія-колечы польскія карані: у некага – бабуля, у некага – дзядуля, у некага – яшчэ нехта. Дом Польскі падтрымлівае ўзаемаадносіны са шмат якімі польскімі арганізацыямі, з асобнымі структурамі польскай амбасады і самой амбасадай . Мы падтрымліваем таксама стасункі з іншымі нацыянальнымі меншынямі Магілёва – азербайджанскай, армянскай, жыдоўскай, татарскай».

Зараз пры Доме Польскім дзейнічае Клуб кабетаў, Польскае лекарскае таварыства, скаўцкая дружына, Клуб польскай моладзі, а таксама самадзейныя калектывы. Гонар Дому Польскага - дзіцячы калектыў народных песень «Машэка». Яго ная кіраўнічка, спадарыня Людміла Жукава, стараецца, каб спеўны рэпертуар быў разнастайны, а калектыў падаваў сябе як найлепей. Дзяўчынкі ўмеюць ужо так шмат, што можна казаць пра амаль што прафесійны характар калектыву, які мае на сваім рахунку канцэрты не толькі ў Магілёве, але і ў Польшчы.

Трэба зазначыць, што магілёўскія палякі зусім не замыкаюцца ў сценах Дому Польскага. Часта ладзяць у розных месцах Дні польскай культуры. Расказваюць жыхарам Магілёва пра свае дасягненні, гаворкаць пра польскую гісторыю і літаратуру, прадстаўляюць польскую музыку і паэзію. Яны даходзяць да тых, якія ведаюць пра Польшчу зусім няшмат, і да тых, хто пасля многіх гадоў знаходзіць свае польскія карані. Магілёўскія палякі жадаюць не толькі захаваць і распаўсюджваць польскую культуру, але і паказаць, што ў Магілёве, незважаючы на гістарычныя ліхалецці, і надалей жывуць нашчадкі палякаў, якія ўсім сэрцам імкнуцца тут да адраджэння польскасці.

**Падрыхтаваў**
**Уладзімір Віткевіч**

# Каб соладка спалася

**Сон уплывае амаль што на ўсе бакі нашага жыцця, аднак большыня з нас ведае пра яго вельмі мала.**

Колькі часу неабходна чалавеку для сну? Справа ў тым, што патрэба ў сне ў кожнага вельмі індывідуальная. Шмат хто мяркуе, што лішак сну яшчэ нікому не шкодзіў, аднак "соням" варта ведаць, што звычка да занадта працяглага сну небяспечная на тое, што сон становіцца павярхоўным і вы не атрымліваеце патрэбнага адпачынку. Згодна апошніх даследванняў, непрацяглы, але бездакорны, з гледзішча якасці, сон нашмат карыснейшы за ненатуральна працяглы.



Сярэдняя патрэба у працягласці сну з улікам узросту складае: нованароджаныя – 15-18 гадзінаў, дзіця – 11-13 гадзінаў, школьнікі – 9-10 гадзінаў, 20-гадовыя – 7-9 гадзінаў, 50-гадовыя і старэй – 6-8 гадзінаў. Даследчыкі сну пацвярджаюць, што людзі, якія ўстаюць на досвітку, хутчэй уваходзяць у форму і дасягаюць большых поспехаў, бо яны маюць больш стабільны крывяны ціск, чым тыя, хто любіць паспаць падаўжэй.

У кожным разе побач з нашымі індывідуальнымі патрэбамі ў сне вялікае значэнне мае і якасць сну, на які мае ўплыў святло, шум і шмат іншых чыннікаў. Рэжым сну вельмі важны, бо арганізм прывыкае спаць у вызначаны час, а парушэнне рэжыму вядзе да бяссоння, што ў сваю чаргу спрычыняе галаўныя болі, неўрозы ды іншыя хваравітыя з'явы.

Адною з прычынаў парушэння сну можа быць кепска правертраная спальня. Дыханне чалавека, які спіць, пераважна запаволенае, таму ягоны арганізм патрабуе большай колькасці кіслароду. У пакоі не павінна быць ані занадта спякотна, ані занадта халодна, аптымальная тэмпература для сну індывідуальная, але вядома, што яна не павінна быць вышэйшай за +24°С. Вельмі важная для добрага сну і правільнае абсталяванне ў спальні. Вядома ж, ложак мае быць выгодным, а пасцельныя рэчы правільна падабраныя.

Да выбару пасцельных рэчаў трэба падыходзіць з улікам асаблівасцяў вашага арганізму, бо моцны і здаровы сон магчымы толькі пры ўмове максімальнага камфорту. Напрыклад, калі вы пакутуеце ад боляў у спіне, суставах, раім аддаць перавагу падушкам і матрацам з артапедычнымі ўласцівасцямі. Калі мерзнеце па начах, дык, несумненна, утульнасць і цяпло вам забяспечаць пуховыя коўдры.

Ці часта трэба мяняць пасцельныя рэчы? Можа, многім гаспадыням будзе цікава даведацца, што здольнасць пасцельнай бялізны абсарбаваць (паглынаць) вільгаць, што выдзяляе скура, знікае пасля другой начы выкарыстання. Нашая скура з 7 млн. сітавінаў (пораў) працуе, як лёгкія – яна дыхае і вызваляецца ад таксічных рэчываў. Потавыя залозы працуюць уначы трохху інтэнсіўней, чым удзень.

Пакуль мы спім, з паверхні скуры выдзяляецца ад 0,5 да 1л. вільгаці. 1/3 яе выпарваецца, а 2/3 убірае ў сябе пасцельная бялізна, матрац і ложак. Пот на 98% складаецца з вільгаці, а 2% прыходзяцца на паваранаю соль, мачавіну, тлушч і кіслату (кіслю). Вельмі важна, каб тканіны, што выдзяляюцца пры скурным дыханні, не атручвалі скуру зноў. Таму паветрапранікальнасць і гіграскапічнасць коўдры і асаблівa пасцельнай бялізны маюць вялікае значэнне.

З прычыны высокай гіграскапічнасці спецыялісты радзяць выкарыстоўваць пасцельную бялізну, зробленую з натуральных матэрыялаў (баваўна, лён). З усяго вышэйсказанага вынікае, што мыць пасцельную бялізну трэба штотыдня, а коўдры і падушкі абнаўляць кожныя тры гады. З тае ж прычыны не радзяць спаць аголенымі. Лёгкая бялізна, якое ледзьве адчуваецца скураю, ёсць аптымальным варыянтам.

Выбар пасцельных рэчаў залежыць ад індывідуальных асаблівасцяў чалавека. Так, вырабы для сну з пуху і пяра лёгкія, цёплыя і выгодныя, цудоўна ўбіраюць вільгаць, падтрымліваюць тэмпературу цела і ствараюць прыемнае адчуванне спакою і камфорту. Пры гэтым вызначаюцца вялікім аб'ёмам пры мінімальнай вазе.

Зараз ува ўсім свеце шырока выкарыстоўваецца ў якасці напаўняльніка пустое ў сярэдзіне поліэфірнае валакно. Яно сфармаванае ў маленькія шарыкі, апрацаваныя для большай рухавасці і мяккасці сіліконам (для вырабу падушак), альбо ў пласт (для коўдраў). Эластычная спіскальная структура валакна мяккая і дыхае. Пышныя і лёгкія пасцельныя рэчы з такім напаўняльнікам можна мыць, і яны цудоўна захоўваюць форму нават пасля шматразовага мыцця і сушкі, экалагічна чыстыя, не маюць паху, не ўбіраюць пылу і не выклікаюць алергіі.

Такім чынам, выбар пасцельных рэчаў ёсць справай адказнай, а культура сну – чыннікам, які акрэслівае якасць жыцця. Той, хто добра спіць, жыве доўга і шчасліва.

**Падрыхтаваў Віктар Новік**

# Што ні народ, то звычай

Большасць еўрапейскіх народаў святкуюць Каляды прыкладна так, як мы. І ўсё ж такі ў кожнай краіне існуюць свае абрады і павер'і, звязаныя з гэтым днём.

У **Італіі**, напрыклад, у дзень перад Калядамі працуюць да абеду, а пасля ўпрыгожваюць ялінку і рыхтуюць падарункі. Паводле звычаю, падарункі раздае "бефіна" - жанчына паважнага ўзросту. Сярод традыцыйных навагодніх страваў вызначаецца вядомы балонскі "тарцяліні" – мясны пірог, паліты смятанай.

У **Чэхіі** і **Славакіі** з вялікай нецярплівасцю на гэтае свята чакаюць маладыя дзяўчыны, таму што менавіта ўночы перад Калядамі яны даведваюцца, ці выйдуць замуж у гэтым годзе. Доказам гэтаму служыць хатняя тапачка, якую будучыя нявесты павінны кінуць праз галаву ў кірунку дзвярэй. Калі тапачка ўпадзе наском да дзвярэй – у хуткім часе з'явіцца і жаніх, а калі ў кірунку пакою... Значна больш светлыя эмоцыі выклікае святочны стол: тушаная капуста з каўбаскамі, карп, грыбны суп, макавае і мядовае пячэнне з маком.

У **Англіі** да каляднага стала абавязкова падаецца індычка і асаблівы дысерт, прыгатаваны са здобнага цеста з начынкай з сухой садавіны. У **Даніі**, як і ўва ўсёй **Скандынавіі**, падчас святочнага вечара рыхтуюць толькі свечкі, а стол упрыгожаны яловымі галінкамі, кветкамі і чырвоным лісцем.

Калядныя звычаі палякаў вельмі моцна нагадваюць святкаванне Каляд у беларускіх каталіцкіх сем'ях. Заходняму Санта-Клаусу і ўсходняму Дзеду Марозу ў палякаў адпавядае Святы Мікалай. У **Польшчы** да святочнага стала, абавязкова накрытым беласнежным абрусам, падаецца 13 відаў страваў. Пачынаецца навагодняя вячэра рыбнай поліўкай ці грыбным супам, затым ідуць: капуста з грыбамі, піражкі з капустай, карп пад салодкім соусам, а завяршае ўсё гэта багацце традыцыйнае здобнае пячэнне з макам, кампотам і свежай садавінай.

**Ксенія Савіцкая**

# Рэформы дабраліся і да алімпіядаў

**Перадапошнія выхадныя 2004 году, амаль што канец другой чвэрці, сёлета гэта яшчэ і час правядзення раённых алімпіядаў.**

Можна сказаць прама, алімпіядаў не зусім звычайных, бо новаўвядзенні гэтага году былі даволі адметныя. Па-першае, гэта правядзенне ўсіх алімпіядаў у два дні. Вядома ж, і раней некаторыя прадметы праходзілі ў адзін дзень, але не да такой ступені. Па-другое, каб не дапусціць падману, ўдзельнікам трэба было мець пры сабе пашпарт і мне вядомыя выпадкі, калі чалавек забыўся на пашпарт і яго не дапусцілі да ўдзелу. Па-трэцяе, у гэтым годзе на раённых алімпіядах да звычайных школаў далучыліся вячэрнія школы і, што найгалоўнейшае, ліцэі, якія раней заўсёды выступалі на абласных алімпіядах. З гэтай прычыны ганаровых месцаў школы занялі вельмі мала. Нават былі выпадкі, што той, хто быў першы сярод школаў, займаў дванаццатае месца, бо перад ім ішлі адны ліцэісты.

Але незважаючы на ўсё гэта. алімпіяда прашла добра, вынікі ўжо вядомыя і мы віншуем пераможцаў! Ну, а ўсім астатнім жадаем поспехаў у наступным годзе!..

**Сямён Крукоўскі**

## Навіны спорту

### Футбол

**Размовы пра пашырэнне расійскай футбольнай прэм'ер-лігі з 16 да 18 камандаў выйшлі на новы этап.**

Агульны збор РФПЛ звярнуўся да выканаўчага камітэту Расійскага футбольнага саюзу з просьбай разгледзець гэтае пытанне.

Кіраўнікі камандаў прапануюць праводзіць чэмпіянат з пачатку сакавіка да канца лістапада. Асноўны аргумент – павялічыць працягласць сезону з мэтай паляпшэння вынікаў у Еўракубках. Бо цяперашні фармат не дазваляе ім знаходзіцца ў добрай форме ні ў канцы восені, ні ў пачатку вясны.

13-га снежня французскі журнал "France Football" апублікаваў вынікі конкурсу па выяўленні лепшага футбаліста Еўропы за 2004 год. Уладальнікам прызу "Залаты мяч" стаў форвард італьянскага "Мілана" і зборнай Украіны Андрэй Шаўчэнка. 28-гадовы футбаліст набраў паводле вынікаў галасавання 175 ачкоў, на 36 апярэдзіўшы 27-гадовага паўабаронцу гішпанскай "Барселоны" і зборнай Партугаліі Дэка. Адначлубнік апошняга, 24-гадовы бразілец Раналдзіньё з 133 ачкамі ўзяў трэцяе месца.

**З 15-га па 23-га студзеня 2005 году ў Маскве прой-дзе 13 міжнародны турнір "Кубак Чэмпіёнаў Садружнасці".**

У ягоны рэгламент унесеныя змены. Улічваючы досвед мінулых гадоў, калі мацнейшыя клубы Расіі і Украіны дэлегавалі на гэтае спаборніцтва другія саставы, матывуючы гэта тым, што асноўны састаў рыхтуецца да еўракубкаў і нацыянальнага чэмпіянату. Гэтым краінам вырашалі даць прывілеі. У цяперашнім розыгрышы маскоўскі "Лакаматыў" і кіеўскае "Дынама" возьмуць удзел на паўфінальнай стадыі. Усе астатнія ўдзельнікі былі падзеленыя на 4 групы.

Спачатку пройдуць аднакаловыя турніры у групах. Гульні адбудуцца 15-га, 16-га і 18-га студзеня. Затым будзе сістэма плей-оф. У чвэрць-фінал, які запланаваны на 19-га студзеня, выйдуць толькі пераможцы групаў (пары складуць А-В, С-Д). У паўфінале 21-га студзеня пераможца сустрэнецца з маскоўскім "Лакаматывам", а другі - з кіеўскім "Дынама". Фінал 23-га студзеня.

**12-га снежня ў Іакагаме адбыўся 43 розыгрыш Міжкантынентальнага кубка, які штогод аспрэчваюць пераможцы еўрапейскай Лігі чэмпіёнаў і паўднёваамерыканскага Кубка Лібертадорэс.**

Адрозненне цяперашняга матчу ад бальшыні астатніх у тым, што ніводны з прэтэндэнтаў на трафей не адносіўся да катэгорыі суперклубаў. Так,13 год таму ў Токіо гулялі югаслаўская "Црвена Звезда" і чылійскі "Коло-Коло". Тады перамога дасталася еўрапейцам – 3:0. Але перавага, няхай мінімальная, застаецца за паўднёваамерыканцамі. За апошнія 10 год прадстаўнікі "Старога Света" адсвяткавалі 8 перамог, а пасля перамогі "Порту" агульны лік трыумфаў – 22:21 на карысць Паўднёвай Амерыцы.

"Порту" (Партугалія) – "Онсэ" (Манісалес, Калумбія) – 0:0, па пенальці – 8:7.

### Хакей

# Мы лепшыя, або... горш за нас няма

**Хімвалакно – Сокал – 3:5**

**Сустрэча суседзяў па табліцы давала магчымасць магілёўскім аматарам хакею паглядзець на сапраўдны бой, але ж...**

Папярэдні матч з ХК "Гомель" забраў у нашых шмат сілаў, і ў пятніцу яны гулялі так, як нельга гуляць камандзе, якая займае чацвёртае месца. Магілёўцы гулялі на нізкіх хуткасцях, а гуляць амаль што са зборнай Украіны немагчыма без хуткасцяў, пасоў і г.д. Гэты матч, асабліва другі перыяд, быў падобны на фігурнае катанне з элементамі хакею. Украінцы не збіраліся аказваць гуманітарнай дапамогі. І нават фінішны штурм з заменай брамніка на шостага палявога гульца не дапамог.

Вось што сказаў настаўнік "Хімвалакно" Аляксандр Ваўчкоў: "Пасля серыі лістападаўскіх перамог пайшла чорная паласа. Гэта датычыць не столькі гульнявога малюнку, колькі вынікаў. Але ўзнікаюць пытанні і псіхалагічнага плану. Магчыма, некаторыя хакеісты пасля пераможных сустрэчаў падумалі, што змогуць перамагчы любога суперніка." Але гульцы не паслухалі свайго трэнера і дзве апошнія гульні саступілі з агульным лікам 11:1. Кераміну – 6:0 і Дынама – 5:1.

**Сяргей Гусакоў**



# БЕЛАРУСКІ ГІСТАРЫЧНЫ КАЛЯНДАР



**Снежань 1902 году.** Утварэнне Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ).

**1-га снежня 1618 году.** У выніку паспяховага паходу на Маскву каралевіча Уладзіслава Вазы, які меў тытул "цара маскоўскага і ўсяе Русі", было падпісанае Дэўлінскае замірэнне. Да Вялікага княства Літоўскага адышло 29 местаў, у тым ліку Смаленск і Чарнігаў, а Уладзіслаў Ваза пацвердзіў свае фармальныя правы на маскоўскі прастол (адрокся ад іх толькі ў 1634 годзе).

**1-га снежня 1923 году.** У Менску адчынілася Генеральнае консульства адроджанай Польшчы.

**3-га снежня 1921 году.** Адчынілася Беларуская рэспубліканская кантора Дзяржаўнага банку РСФСР (з 1991 году – Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь).

**3-га снежня 1925 году.** На загад ЦК КП(б)Б з рэпертуару Беларускага дзяржаўнага тэатру была знятая п'еса Янкі Купалы "Тутэйшыя", бо яна прапагандавала ідэі "нацыянал-дэмакратызму".

**4-га снежня 1938 году.** Загінуў у ГУЛАГу віцэ-прэзідэнт АН БССР, ініцыятар стварэння Сялянскага Інтэрнацыяналу (1923) Тамаш Домбаль.

**4-га снежня 1959 году.** Адкрыццё ў Менску Літаратурнага музею Я.Коласа.

**5-га снежня 1947 году.** Нарадзіўся беларускі паэт Алесь Разанаў. У 60-я гады быў выгнаны з Беларускага дзяржаўнага універсітэту за патрабаванне перавесці выкладанне на беларускую мову.

**6-га снежня 1926 году.** РСФСР перадала ў склад БССР Гомельскі і Рэчыцкі паветы расфармаванай Гомельскай губерні (астатнія 3 паветы былі далучаныя да Бранскай губерні).

**6-га снежня 1938 году.** У Менску пачаўся I з'езд мастакоў БССР.

**6-га снежня 1914 году.** Нарадзіўся Р.В.Няхай, беларускі пісьменнік.

**7-га снежня 1963 году.** Адчыніўся маршрут электрычкі Менск-Аляхновічы (працягнуты да Маладэчна ў 1966 годзе).



**8-га снежня 1991 году.** Кіраўнікі Беларусі, Украіны і Расіі С.Шушкевіч, Л.Краўчук і Б.Ельцын заснавалі Садружнасць Незалежных Дзяржаваў і прапанавалі далучыцца да яе ўсім зацікаўленым у гэтым краінам.

**9-га снежня 1918 году.** Рада і ўрад БНР напярэдадні эміграцыі ў Вільню выдалі 5-ю Устаўную грамату. Беларускі народ заклікаўся у ёй да супраціву аднаўленню ўлады бальшавікоў і да стварэння па ўсім краі "беларускіх Саветаў", падначаленых Радзе БНР.

**9-га снежня 1891 году.** Нарадзіўся паэт Максім Багдановіч, які пакінуў нам багатую, шматгранную спадчыну.

**9-га снежня 1981 году.** Адкрыццё помніка Максіму Багдановічу ў Менску.

**10-га снежня 1865 году.** Царскі ўрад забараніў асобам каталіцкага веравызнання і "польскага паходжання" купляць і арандаваць зямлю на Беларусі.

**10-га снежня 1918 году.** Бальшавіцкія войскі ўвайшлі ў пакінуты немцамі Менск. Створаны ў той самы дзень Ваенна-Рэвалюцыйны камітэт абвесціў роспуск Рады БНР і загадаў арыштаваць ейных сябраў. Тым не менш бальшавікі ўжо мусілі лічыцца з жаданнем беларусаў стварыць уласную дзяржаву і праз тры дні абвесцілі БССР.

**11-га снежня 1876 году.** Нарадзіўся Мечыслаў Карловіч, польскі кампазітар, які нарадзіўся на Беларусі.

**12-га снежня 1971 году.** Памёр Давід Сарноф, амерыканскі піянер радыё- і тэлевізійных. Нарадзіўся ў Менску, але ў 1900 годзе сям'я эміґравала ў Амерыку.

**12-га снежня 1586 году.** Памёр вялікі князь Вялікага княства Літоўскага і кароль Польшчы Стэфан Баторы (Сцяпан Батура)

**13-га снежня 1923 году.** У БССР шырока адзначалася 50-годдзе вядомага расійскага паэтасімваліста Валерыя Брусава, які яшчэ да рэвалюцыі пераклаў на рускую мову выбраныя творы Я.Купалы і Я.Коласа. На агульным сходзе Інстытуту беларускай культуры В.Брусаў быў абраны ганаровым сябрам Інбелкульту.

**14-га снежня 1930 году.** "Звязда" надрукавала напісаны пад пагрозай рэпрэсіяў ліст Янкі Купалы, у якім ён асудзіў свае "палітычныя памылкі". Падобны ліст Якуба Коласа быў апублікаваны трошку раней – 3 снежня.

**14-га снежня 1938 году.** Памёр у ГУЛАГу вядомы беларускі паэт-футурыст Міхась Чарот, былы рэдактар газеты "Савецкая Беларусь", аўтар сцэнарыя першага беларускага кінафільму "Лясная быль" і лібрэта оперы "Кветка шчасця".

**15-га снежня 1934 году.** Нарадзіўся Станіслаў Шушкевіч, першы кіраўнік незалежнай Беларусі.

**15-га снежня 1986 году.** 28 найбольш аўтарытэтных прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, у тым ліку літаратары В.Адамчык, Р.Барадулін, Я.Брыль, В.Быкаў, П.Панчанка, мастак Л.Шчамялёў, народная артыстка БССР С.Станюта ды іншыя, накіравалі на імя генеральнага сакратара ЦК КПСС адкрыты ліст, у якім пратэставалі супраць дыскрымінацыі беларускай мовы на ейных гістарычных абшарах, што парушае правы чалавека і абражае годнасць нацыі. Прапанаваныя ў лісце захады ў паляпшэнні стану беларускай мовы ў рэспубліцы Крэмль праігнараваў.

**16-га снежня 1862 году.** Адчынілася першая на тэрыторыі Беларусі чыгуначная лінія Парэчча-Горадня (частка Пецярбургска-Варшаўскай чыгункі).

**16-га снежня 1903 году.** Нарадзіўся вядомы беларускі мастак, класік сацрэалізму Іван Ахрэмчык.

**17-га снежня 1926 году.** Паводле вынікаў перапісу насельніцтва, у Менску ў той дзень жылі 130.838 чалавек.

**17-га снежня 1938 году.** Пасля расстрэлу наркамаў унутраных справаў БССР Б.Бермана і А.Наседкіна кіраўніком рэспубліканскіх органаў дзяржбяспекі быў прызначаны сябар Берыі Л.Цанава. Гэты кат таксама загінуў за кратамі ўласнай "фабрыкі смерці".

**18-га снежня 1973 году.** Пётр Клімук стаў першым беларусам, што паляцеў у космас (потым здзейсніў яшчэ два палёты).

**20-га снежня 1928 году.** Аўтар 40 п'есаў і стваральнік тэатру "Трупа Галубка" Уладзіслаў Галубок першым атрымаў ганаровае званне народнага артыста БССР.

**21-га снежня 1863 году.** Царскія ўлады пакаралі смерцю паплечнікаў Кастуся Каліноўскага начальніка горада Вільні падчас паўстання Ігната Здановіча і камісара Віленскага ваяводства Мечыслава Дарманоўскага

**21-га снежня 1943 году.** У Менску была створаная Беларуская Цэнтральная Рада (БЦР) на чале з Радаславам Астроўскім. Калабаранты разглядалі гэта як адраджэнне беларускай дзяржаўнасці пад нямецкім пратэктаратам. Немцы перадалі БЦР кіраўніцтва адукацыяй, культурай, сацыяльнай апекай, некаторымі аспектамі эканамічнай ды вайсковай палітыкі.

**22-га снежня 1937 году.** У катавальнях НКВД быў расстраляны без суда выдатны беларускі мастак Раман Семашкевіч. У 1958 годзе ён быў рэабілітаваны, але дагэтуль невядомае месца знаходжання 300 палотнаў мастака, скантфіскаваных падчас арышту.

**23-га снежня 1831 году.** Памерла Эмілія Плятэр, збіральніца беларускага фальклору, удзельніца паўстання 1831 году, якой Адам Міцкевіч прысвяціў верш "Смерць палкоўніка".

**24-га снежня 1939 году.** Выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў працоўных БССР паводле новай Канстытуцыі БССР.

**24-га снежня 1798 году.** У фальварку Завоссе (цяпер Баранавіцкі раён) нарадзіўся выбітны беларуска-польскі паэт Адам Міцкевіч. "Песняром Літвы" называў Адама Міцкевіча ягоны расейскі калега Аляксандр Пушкін. Міцкевічавай "Літвою" была, як вядома, Беларусь. Якраз у беларускай зямлі – усе карані паэта.

24-га снежня - Калядная куцця ў беларусаў-каталікоў.

25-га снежня - Хрыстова нараджэнне па календары каталіцкай канфесіі.

**25-га снежня 1951 году.** Прэзідыум Вярхоўнага Савету Беларусі зацвердзіў чырвона-зялёны сцяг рэспублікі ( Указ "Аб дзяржаўным флагу Беларускай ССР).

**26-га снежня 1987 году.** У вёсцы Палачанка пад Менскам адбыўся Першы Вальны сойм беларускіх суполак, які афіцыйна назваўся "Рэспубліканскай нарадай моладзевых аб'ядданняў гістарычна-культурніцкага і краязнаўчага кірунку".



**26-га снежня 1926 году.** Выйшаў у свет першы беларускі мастацкі кінафільм "Лясная быль" рэжысёра Юрыя Тарыча.

**27-га снежня 1916 году.** У Вільні было заснаванае Беларускае навуковае таварыства (было дзейным да "вызвалення" горада савецкімі войскамі).

**27-га снежня 1989 году.** Створана Беларускае краязнаўчае таварыства.

**27-га снежня 1836 году.** Нарадзіўся Валерый Урублеўскі, удзельнік рэвалюцыйнага гуртка, адзін з стваральнікаў рэвалюцыйнай арганізацыі ў Гародні, генерал Парыжскай камуны, сябра Генеральнага Савету I Інтэрнацыяналу. Дапамагаў К.Каліноўскаму выдаваць і распаўсюджваць "Мужыцкую праўду", у часе паўстання 1863-1864 гг. на Беларусі камандаваў паўстанцкімі атрадамі.

**27-га снежня 1906 году.** Нарадзілася пісьменніца Аляксандра Саковіч (Іна Рытар-Каханоўская), прадстаўніца беларускай грамады ЗША.

**28-га снежня 1921 году.** З прыватных збораў Івана Луцкевіча ў Вільні быў створаны Беларускі музей. Па вайне экспанаты гэтага асяродка нашай культуры і гісторыі былі перададзеныя Гістарычна-этнаграфічнаму музею Летувіскай ССР.

**28-га снежня 1920 году.** Першая Беларуская Слуцкая дывізія цераз месяц пасля пачатку паўстання была вымушаная адступіць за польскую мяжу. Каля вёскі Сіняўка палякі абяззброілі яе, а потым перавялі ў Беласток. Некалькі сотняў (паводле некаторых крыніцаў – 3 тысячы) паўстанцаў потым вярнуліся і стварылі партызанскія атрады.

**30-га снежня 1990 году.** Запрацавала другая лінія Менскага метрапалітэну (першая лінія запрацавала ў 1984 годзе).

**30-га снежня 1951 году.** Была заснаваная Арганізацыя беларуска-амерыканскай моладзі ў ЗША (да 1967 году называлася Згуртаваннем беларускай моладзі ў Амерыцы).

**30-га снежня 1831 году.** Памёр Ігнат Манькоўскі, віцебскі шляхціч, віцебскі губернскі пракурор і віцэ-губернатар, публіцыст. Яму прыпісвалі аўтарства паэмы "Энеіда навыварат".

**30-га снежня 1971 году.** Пачала дзейнічаць першая чарга Магілёўскага камбінату сінтэтычнага валакна.

**31-га снежня 1992 году.** Беларускія вайскоўцы, памежнікі і супрацоўнікі КДБ далі прысягу на вернасць Беларусі. Гэтым актам завяршылася юрыдычнае афармленне ўласных Узброеных Сілаў і органаў дзяржбяспекі.

**31-га снежня –**

**З Новым 2005 годам!**

**Падрыхтаваў Віталь Цішкоўскі**



Нататкі з падарожжа

# Успамін



**Ведаеце, я ўсе помню... А думаў, што засталіся толькі танюткія праменьчыкі ўспамінаў аб маім мінулым, аб маім жыцці... Не, я помню ўсё: і першую востраканечную правільную зорку-сняжынку, якая растала на маім носе, і першую кроплю дажджу, якая ўпала на мой язык... Помню, помню, помню...**

Найпершы мой успамін - гэта цеплая поўсць маёй маціваўчыхі, яе ласкавы язык, яе знаёмы прыемны пах. Успаміны, успаміны... Вы паўстаеце так нечакана, і варта мне толькі не ўспамінаць, як вы можаце знікнуць... Але я памятаю, памятаю ўсе...

Як гэта ні дзіўна, але я з'явіўся на свет адзін, без братоў і сясцёр, а першым маім прыстанкам зрабіўся вузкі занядбаны тупік на ўскраіне забытага горада, які чарнеў пасярод тайгі, на ўскраіне поўначы. І бальшыня людзей, якія жылі ў горадзе, таксама здаваліся нейкімі занядбанымі, пакінутымі і злымі. Мабыць, ад таго, што пра іх ніхто не памятаў, а, мабыць, ад тых нягодаў і наслання, якія проста вельмі любілі часам звальвацца нібы снег на галаву.

Я памятаю, як я бавіў час, лежачы ў якойсьці кардонцы ці гуляючыся са здзьмуханым гумавым мячом, чакаючы, калі вернецца маці і прынясе сваю здабычу. А праз некаторы час я ўжо і сам спрабаваў палявацы, але колькі вады сплыло, пакуль я здолеў самастойна злавіць сваю першую ахвяру - белага зайца, які занадта ж рана высунуўся са сваёй ледзь прыкметнай нары. Але ні я, ні маці не забівалі яго дзеля забавы. Навошта? Мы бралі ад тайгі толькі тое, што яна нам давала і ніколі не патрабавалі большага. Але ў цяжкія гадзіны заўсёды трэба плаціць за тое, што бярэш, і ніхто не зробіць табе паслугі... І тайга забрала маю маці. Шэрая ваўчыха ніколі больш не вярнулася з палявання. На зямлю ўжо спускаўся змрок, а яе ўсё не было. Снег змораны круціўся і засыпаў усё навокал. Усё было так звычайна на першы погляд, а на самой справе - шмат чаго змянілася. Вір жыцця нечакана выкінуў мяне на няветлівы бераг. Я застаўся адзін і з жахам разумеў гэта. У тую ноч мне ўпершыню паказаўся Белы Воўк. Ен з'явіўся немаведама адкуль. Мне здалося, што на адзінае імгненне камякі снегу злучыліся ў адзінае цэлае, і Белы Воўк з'явіўся перада мною. Ён акінуў вокам тупік, а потым паглядзеў на мяне, і я адчуў, як голад, страта і адзіноцтва зліліся і нахлынулі на мяне вялізнай хваляй. А Белы Воўк доўга і працяжна завыў, ускінуўшы морду да поўнага месяца, заспяваў яму сваю песню. І я, увесь дрыжачы ад невядомага смутку, усёй сваёй істотай далучаўся да яе. А калі яна скончылася, Белы Воўк яшчэ раз паглядзеў на мяне і знік, растаў у святле месяца...

І вось, я зрабіўся абсалютна вольным. Воўк-адзінец, ні з чым і ні з кім не звязаны. Цяпер мне ўсё было абыякава, у мяне не засталося ніякага арыентыру ў жыцці, ніводнай душы, дзеля якой мне сапраўды патрэбна б было жыць.

Але аднойчы ўсё змянілася. Калі я хадзіў па тайзе у пошуках здабычы аднаго дня, я пабачыў такую карціну: на шырокай заснежанай паляне насмерць схапіліся дзве істоты, якія належалі розным светам, - рысь і чалавек. Я спакойна прайшоў бы міма, калі б не адна акалічнасць - чалавек не быў са зброяй, рысь першая напала на яго. І што мяне ўразіла, дык гэта тое, што ён зусім не спрабаваў прычыніць рысі боль, ён толькі зморана адпіхваў яё прэч, але раз'юшаная котка была мацнейшая за чалавека, чые сілы былі на зыходзе.

І я пажадаў справядлівасці.

Я бясшумна выскачыў на паляну і цапнуў рысь за бок. Вядома, зубы маладога ваўка не маглі зрабіць ёй вялікай шкоды, але на пушыстай поўсці з'явілася кроў, і рысь, пабачыўшы, што чалавек не адзін, адступіла. А я адыйшоў далей ад чалавека. Той павольна ўзняўся на ногі і паглядзеў на мяне. І доўгі час мы проста стаялі і глядзелі адзін аднаму ў вочы. Потым ён пашарыў рукой у кішэні сваёй абадранай курткі, паклаў штосьці на пянёк, перад гэтым змахнуўшы з яго снег, і... пайшоў у горад не паварочваючыся. Я падышоў да пянька толькі тады, калі больш не чуў храбусцення снегу, які выдаваў чалавечыя крокі. Але ж мая асцярожнасць была залішняй - я і без гэтага даў сябе пакасаць. На пяньку ляжаў кавалак вяленага мяса - падзяка за выратаванае жыццё... Але ж, чым яшчэ мог чалавек падзякаваць мне?

Дзіўна, але я стаў прыходзіць у тайгу тады, калі ведаў, што там ходзіць той чалавек. Ён не быў паляўнічым, ён проста назіраў за грубай тайговай прыродай, спрабаваў адгадаць, на чым трымаецца крохкая раўнавага паміж жыццём і смерцю... Я ж ведаў гэта, але я ведаў таксама і тое, што кожны павінен зразумець гэта самастойна. Усе ж толькі тыя веды, якія здабыты самастойна, сапраўды найкаштоўнейшыя. Таму я толькі назіраў за чалавекам і не паказваўся яму.

Усю зіму мы разам хадзілі па тайзе: ўжо немалады чалавек, які кожнае маленькае дзіва прыроды ўспрымаў з радасцю, і я - малады воўк, які з цікавасцю сачыў за чалавекам. Ён амаль што не бачыў мяне, але ведаў, што я дзесьці побач, і часам ён пакідаў мне кавалак мяса на пяньку перад сваім адыходам. Гэта можна было б назваць своеасаблівай платай за маю працу - я ахоўваў гэтага чалавека ад астатніх драпежных звяроў, таму што толькі ён палягчаў маё адзіноцтва. А яшчэ я прыкмеціў, што калі ён смяяўся, то і ў мяне на душы цяплела...

Ужо бліжэй да вясны чалавек зрабіў спробу наблізіцца да мяне. Ён зноў пакінуў мяса на пяньку, але не пайшоў, як раней, а застаўся стаяць... Надышоў час зноў паглядзець адзін аднаму ў вочы, і я з'явіўся з-за кустоў. За зіму я падужэў, вырас, і чалавек пабачыў вялізнага шэрага ваўка з моцнымі лапамі і гібкім мускулістым целам.

Я не спяшаўся падыходзіць, і чалавек таксама не рухаўся. Як я ўжо казаў, гэта быў немалады чалавек, ён трошкі горбіўся, а яго валасы адлівалі цьмяным срэбрам. Ён ціха штосьці сказаў мне і кінуў на мяса. Я падышоў бліжэй і ўзяў у зубы кавалак, а чалавек па-ранейшаму не адыходзіў. І тады я трохі асмялеў, неспяшаючыся з'еў мяса, аблізнуўся і паглядзеў на чалавека. Ён зноў штосьці сказаў і працягнуў да мяне руку, быццам паказваючы, што ў яго няма нічога, што магло б зрабіць мне боль, і я тыцкнуўся ў яго далонь сваёй вузкай мордай, давяраючы чалавеку самога сябе. Ён ласкава пачасаў у мяне за вухам і пайшоў прэч, а я ўсё стаяў і слухаў, жадаючы адчуць водгукі яго крокаў. І раптам я пабачыў Белага



Ваўка. Ён стаяў паміж дрэў і глядзеў на мяне, а ў вачах яго быў такі смутак, такі сум і шкадаванне... Але не паспеў я і вокам маргнуць, як Белы Воўк знік, і яшчэ доўгі час я не бачыў яго...

Я хутка адчуў прыхільнасць да гэтага чалавека. Калі я не бачыў яго больш аднаго дня, мною авалодвала трывога, і я, як шалёны, бегаў па тайзе. Дробныя жывёлы хаваліся ад мяне, а браты-ваўкі не прымалі да сябе, таму што адчувалі маю другую кроў - кроў бацькі-сабакі, прыручанай істоты. І я разумеў, што і мяне прыручыў чалавек. Рабілася цяжка. Я выказваў свой жаль месяцу, таму што менавіта з ім, як я лічыў, быў звязаны Белы Воўк. Я клікаў, прасіў аб дапамозе, але ўсе было дарэмна. Я так выў, што часам мне здавалася, што круглы дыск на небасхіле трэсне ад майго выцця. Але месяц толькі ледзь-ледзь дрыжаў у начным небе, усеяным зоркамі, і слухаў маю сумную песню.

Усё змянялася, калі мой чалавек прыходзіў да мяне. Я ніколі не паказваў сваёй вялікай радасці, але ў душы быў шчаслівы. Чалавек хадзіў са мной па тайзе і з пяшчотай штосьці мне гаварыў, а я ішоў побач і спрабаваў здагадацца, аб чым ён гаворыць. Часам я любіў устаць перад ім на заднія лапы, а пярэднія пакласці яму на плечы і зазірнуць у яго вочы. Я бачыў там сябе, але не тое адлюстраванне, якое бачыў, калі набліжаўся да лужынаў ці ляснога возера. Не, я бачыў там сябе, агорнутага і абароненага сяброўствам, любоўю, дабрынёю і разуменнем гэтага чалавека, і мне здавалася, што так будзе заўсёды. Што заўсёды мы будзем разам назіраць за цудамі тайговай прыроды, за бліскучым некранутым снегам пад месяцам, за прывабным, поўным нейкага жалю, захадам сонца, і заўсёды, заўсёды будзем неразлучныя...

Адной зімой чалавека не стала. Ён знік, адышоў кудысьці туды, адкуль ніколі не вяртаюцца. А ад мяне засталася адно абалонка, праз дзіркі якой цьмяна свяцілася душа. Унутры глуха стагнала адно пытанне: «Чаму?»

Я існаваў, але мне было ўсе роўна, што са мной здарыцца. Доўгімі гадзінамі я сядзеў каля ягонай магілы і глядзеў на штосьці плоскае, на чым я пазнаў выяву майго чалавека - ён пяшчотна мне ўсміхаўся. Калі ў мяне стала не хапаць сілаў прыходзіць да магілы, я ўзяў гэтую плоскую рэч да сябе. Я ішоў, хістаючыся, па вуліцы, а людзі з жахам ад мяне разбягаліся, але мне было ўсё роўна. Я ляжаў у сваім тупіку, працягваючы неадрыўна глядзець на майго чалавека, і чакаў...

І дзякуючы людзям, мне доўга чакаць не прывялося. Я зразумеў, што трэба зрабіць, і падняўся. Усе мае сілы, што засталіся, сабраліся для адзінага скоку з існавання ў небыццё. Мае вочы запалалі агнём, у лапах зноў з'явіўся моц. Зноў забілася маё жыццё, забілася ў канвульсіях, забілася для таго, каб даць сілы на смерць. І я скокнуў... прагучаў стрэл... На зямлю ўпала толькі падзёртае цела, а мая душа рынулася ўгару. Я бачыў там Белага Ваўка, які чакаў мяне, так доўга чакаў на маю свабоду...



* * *

Бачыце, я нічога не забыўся, і мне хочацца верыць, што памятаць аб чымсьці галоўным у гэтым жыцці будзем не толькі я і Белы Воўк.

**Кацярына Забрудская**

# OSIMIRA – МУЗЫКА ЧАЛАВЕКА І ПРЫРОДЫ



**11-га снежня ў Цэнтры культуры і мастацтва адбыўся нештодзённы канцэрт вядомага магілёўскага гурта OSIMIRA – прэзентацыя альбому “Прошча”, які нядаўна выйшаў у свет.**

Найперш я доўга ламаў галаву, што такое **“Прошча”**. Што ж гэта значыць, які сэнс крыецца ў гэтым прыгожым беларускім слоўцу? Шчыра кажучы, каб даведацца сэнсу гэтага слова, мне давялося пагартаць цімала старонак беларуска-рускіх слоўнікаў. Прыкра канстатаваць, але ні ў адным з сучасных слоўнікаў яго не было – відаць, слова даўно выйшла з ужытку, забылася. Нарэшце мне пашчасціла знайсці гэтае старавечнае беларускае слоўца ў “Беларуска-расійскім слоўніку” М.Байкова і С.Некрашэвіча 1925 году выдання: **“Прошча** ж – чудотворное место (колодезь со святой водой); паломничество к этому месту”. Як відно з усяго, назва альбому ўжо сведчыць сама за сябе.

Старавечная беларуская назва “Прошча” вельмі сугучная з прысвячэннем гурта на вокладцы кампакт-дыску: “Паклон усім нашым Продкам, бабулям, дзядулям, пяшчотным рукам нашых матуляў ды блакітным вачам нашых бацькоў. Мы цалуем цябе, Родная Зямля!”

OSIMIRA – гэта гурт музыкаў, аб’яднаных дзеяй каранёвай этнічнай музыкі. З аднаго боку, гэта музыка народных святаў, кірмашоў ды гулянняў. З іншага – гэта мелодыі прыроды нашай зямлі, дзе кожнае месца гучыць пасвойму. Гэта музыка чалавека і прыроды, якая гучыць у кожным.

У паганскі перыяд адзінства чалавека з прыродай, на якім і ўзнікла мастацкая сістэма фальклору, натуральнае дзіцця чалавецтва не гвалціла навакольнае асяроддзе, не ставіла сябе вышэй за сваю прыродную сутнасць, а лічыла сябе часцінкай Сусвету, як гэта і ёсць у сапраўднасці. Усе свае настроі, пачуцці, рухі душы, самыя няўлоўныя адценні ейнага стану дзіця прыроды перадавала праз аналогіі з самой Прыродай.

З часоў існавання даўней усім вядомага “Округа Свободного Искусства” (“ОСИ”) склад музыкаў гурта троху змяніўся ды памянеў, а назва гурта незаўважна стала OSIMIRA, але на змену ў гучанні і кірунку гурта паўплывалі, безумоўна, не толькі гэты факт, але і няўмольны час. Цяпер склад удзельнікаў OSIMIRA выглядае гэткім чынам:

**Андрусь Палаўчэня** – дуда, вакал, жалейка, альт-домра, арган, флейты, перкусія.

**Кацярына Донда** – скрыпка.

**Кастусь Канцавы** – дуда, арган, жалейка, салома, мандаліна, сурма, сапілка, флейты.

**Аляксей Палаўчэня** – перкусія, бубны, вакал.

**Ілля Далжанкоў** – бас-гітара.

**Андрэй Біндасаў** – бубны, перкусія, альт-домра, вакал.

Незважаючы на адносна невялікі кошт квіткоў (5.000 р.), на канцэрце-прэзентацыі было не так ужо шмат народу, як меркавалася. Відаць, людзі былі проста слаба паінфармаваныя пра канцэрт. Кампазіцыі OSIMIRA успрымаліся лёгка і прынеслі шчырае задавальненне прысутным аматарам фольк-мадэрнавай музыкі.

Трэба зазначыць, на канцэрт прыйшла ў асноўным моладзь. І гучалі там не толькі тыя кампазіцыі, якія ўвайшлі ў кампакт-дыск. У часе канцэрту музыкі часам звярталіся да грамады ў залі, жартавалі, імправізавалі. Трымаліся на сцэне вольна, нязмушана. Напэўна, дзеткі, што сядзелі ў залі, успрынялі пачутае ды пабачанае па-свойму. Важна, што і яны атрымалі сваё задавальненне ад каранёвай музыкі – некаторыя з іх скакалі каля сцэны.

Падчас канцэрту музыкі паставай, голасам, суладным гукам сваіх старажытных інструментаў, а найгалоўнейшае – сэрцам і душой сведчылі пра глыбінную сутнасць свае музыкі. У гэтым была нейкая нястрымная сіла і зачараваная прыгажосць, якая прымушала залю часам затаіць дыханне. Музыка OSIMIRA - у асноўным інструментальная. Музыкі мала спявалі, патлумачыўшы гэта нежаданнем адыходзіць ад старадаўніх традыцыяў. Маўляў, найвярнейшыя носьбіты і захавальніцы беларускай спеўнай традыцыі – пераважна жанчыны, а ў гурце толькі адна-адзіная дзяўчына... Незважаючы на гэта, што-нішто з кампазіцыяў было са спевамі ў выкананні хлапцоў (“Юр’я”, “Жыва”, “Купя”).

Уважлівыя слухачы адзначаць уплыў джаз-року і стылю ф’южн у кампазіцыях “Атар”, “Юр’я”, “Трый”, у якіх шырока выкарыстоўваецца імправізацыя, а таксама джазавы скэт (“Ярылкі”). Ёсць і эксперыменты з музычнымі стылізацыямі: закарпацкімі тэмамі выклікае цікавасьць “Гуцульскі рэнджар”, а “Палескі танок” ёсць арыгінальнай спробай распрацоўкі меладычных тэмаў рэгіёну. Старадаўнія інструменты актыўна задзейнічаныя ў адной з найцікавейшых кампазіцыяў альбому – замове паганскаму богу Велесу “Жыва”, якая пераносіць нас у стыхію паганскіх рытмаў і скокаў.

Кампазіцыі з рэпертуару OSIMIRA не знаходзяцца ў раз і назаўсёды заштампаваным выглядзе, яны “даводзяцца”, удасканальваюцца, незаўважна змяняючы сваю афарбоўку. Так працаваць складаней, але гэты працэс радуе, захапляе не толькі ягоных удзельнікаў, а і сваіх прыхільнікаў.

Варта зазначыць, што музыкі OSIMIRA не проста праяўляюць несціханую цікавасць да маляўнічых фарбаў музыкі сівой даўніны, але і стылізавана выконваюць яе на старажытных інструментах, убраныя ў старадаўнія паганскія строі, бальшыня ж музыкаў - нават басанож. Уся музыка пабудаваная на засяроджана-меладычных тэмах з ужываннем шматлікіх, як і належыць жанру, гукавых эфектаў натуральнага паходжання – шэпту дажджу, пошуму ветру.

Музыка OSIMIRA – зусім не тая модная музычка, аднастайная, выключна для маладых, тых, хто над сэнсам жыцця задумвацца пакуль што або ўжо не можа. Музыку OSIMIRA робяць самі музыкі, а не кампутары, у аснове якой мелодыя, а не голы, хоць і расквечаны рытм. Музыка гурта - без электронных выкрунтасаў і мудрагелістых гукавых эфектаў.

OSIMIRA не баіцца пошукаў, эксперыментаў – гэта перавага маладосці і прыкмета творчай натуры кожнага з удзельнікаў гурта. На сёння ў музыкаў досыць багаты і своеасаблівы рэпертуар. Вяршыняй творчага пошуку і стала выйсце ў свет вышэйзгаданага альбому **“Прошча”**. Творчасць OSIMIRA цалкам грунтуецца на запале. Можа, гэта і дазваляе гурту вырашыць складаныя задачы па ўдасканаленні выканаўчай тэхнікі і ў фармаванні рэпертуару.

Слушнасць узятага кірунку ў творчых пошуках пацвердзіў удзел OSIMIRA ў Міжнародным фэсце этна і фольку **“ETHNOSFERA”** ў г. Скернівіцэ (Польшча), 1-е месца конкурсу, “Прыз глядацкай сімпатыі” (2002); у Еўрапейскім неафолькавым фэсце **“MENUO JUODARAGIS”** ў г. Кернавэ (Летувіская Рэспубліка) (2003); у Міжнародным фэсце **“Славянскі базар”** у Віцебску (Беларусь) (2003). Што ж датыцыць першага сольнага канцэрту гурта, дык ён прайшоў у родным Магілёве ў ДКіТ “Хімвалакно” 8-га лістапада 2002 году.

Усе ў OSIMIRA па-добраму ганарацца сваім гуртом, ягонаю згуртаванасцю. Усе тут здольныя, адораныя ад прыроды маладыя людзі. Можна гаварыць асобна пра таленты кожнага з удзельнікаў, напрыклад, пра арганізатарскія ды універсальныя музычныя якасці Андруся Палаўчэні, пра Кастуся Канцавога, які не толькі цудоўна грае на старавечных беларускіх інструментах, а і сам іх з задавальненнем вырабляе, пра дадзеныя іншых музыкаў.

Але гурт OSIMIRA – не проста сума вартасцяў усіх ейных удзельнікаў, а больш тонкая і складаная структура, асабліва ў фольк-мадэрнавай творчасці. Тут поспех залежыць не толькі ад майстэрства асобна ўзятага музыкі, але ў многім ад здольнасці кожнага выканаўцы арганічна ўліць свой голас, голас свайго самабытнага інструменту ў агульнае суладдзе шматварыянтнай па тэмбры і дыяпазоне плыні. Граць фолькавую музыку – увогуле справа няпростая. Але тут гаворка ідзе не пра тэхніку выканання, а пра ўзровень на парадак вышэй, калі кажуць – “патрэба душы”.

Што ж датычыць агульнага праслухоўвання альбому “Прошча”, дык можна канстатаваць ягоную рэпрэзентатыўнасць: беларускі (магілёўскі) фольк-мадэрн паўстае на ім як паўнавартасная музычная з’ява, з самабытным гучаннем і меладызмам. Да слова кажучы, запіс роўны і досыць якасны. Дызайн вокладкі адпавядае кірунку.

Апрача 12 кампазіцыяў, на дыску ёсць фотаздымкі гурта. Дыск утрымлівае таксама дадатковы мультымедыйны файл з унікальнай праграмаю праверкі беларускай арфаграфіі паводле абедзвюх версіяў правапісу “ЛІТАРА 1.0” (для office 2000 і вышэй). Варта зазначыць, што асобным выданнем гэтая праграма ў вольны продаж паступаць не будзе.

Новы час, як вядома, характэрны ламаннем старых канонаў, стварэннем новага. Музыкі OSIMIRA паяднаілі гэта ў адным – у сваёй творчасці. Вядома ж, тут не можа быць гаворкі пра ўсеагульнае, поўнае прыняцце людам старажытнай музыкі ў стылізаваным выкананні OSIMIRA. Як кажуць, што ні чалавек, то розум.

А музыкам жа з гурта OSIMIRA мы можам шчыра падзякаваць за зразуменне і прыхільнасць да нашай агульнанароднай справы ратавання скарбаў старавечнай беларускай культуры, за распрацоўку цудоўнай і багатай музычнай спадчыны сівой даўніны. Новы альбом гурта OSIMIRA “Прошча” – важны ўклад ў развіццё беларускага фольк-мадэрну.

**Уладзімір Віткевіч**



# Depeche Mode – песімістычныя рамантыкі скрозь тэхнагенную рэальнасць

**Яны проста прыйшлі тады, калі робатызаваная эра Kraftwerk паціху канула ў мінулае. Яны непрыкметна прыйшлі, калі на Брытанскіх астравах punk-рух ужо здаваў свае бунтарскія пазіцыі. Яны нечакана з'явіліся, калі чуллівыя тынэйджэрскія сэрцы і пульсы, добра стаміліся ад бяздушнага і сухога disko. З'явіліся ў гэтым свеце не для таго, каб зрабіць некалькі сінтэзатарных мелодыяў. І не проста з'явіліся сказаць, што свет складаецца толькі з бессардэчнай індустрыяльнай урбанізаванасці. Яны прыйшлі і цяпер праз столькі гадоў на старонкі і нашай газеты.**

Мне не хацелася б пачынаць артыкул – гісторыю пра гэты надзвычайны гурт толькі са звычайнага апісання складу, альбомаў і самых паказальных падзеяў, якія адбыліся з ім на яго творчым шляху. Магчыма, я не першы, хто так жадае неардынарна напісаць пра гэтую легендарную чацвёрку. Але для таго каб вельмі выразна зразумець, які ўплыў гэтага калектыва на ўсю эпоху электроннай поп-музыкі і розных музычных напрамкаў, а таксама сусветных тэндэнцыяў у модзе, патрэбна ўважліва разглядзець конскае тварэнне пад моцна павелічальным мікраскопам.

Музыка і песні – гэта не перыферыйная варыяцыя на адну і тую зацяганую музычную і лірычную тэму. Гэта тое, на чым, уласна, і трымаецца гэтая планета і разам з ёй чалавецтва – шчырая, чыстасардэчная і міласэрная любоў, якая не можа не суіснаваць разам з такім адмоўным і супрацьлеглым, як пакута, адчужанасць, адзінота, адсутнасць, боль, жах, туга. Але, ядома, яна суседнічае і з станоўчым, як сардэчная дабрыня і незямное ачышчэнне, якое павінна ўзяць верх над усім пустым, брудным, злосным, палым...

Кожныя іх новыя альбомы – гэта ўнікальная і паказальная падзея па абодва бакі зямнога паўшар'я для ўсіх фэнаў і меламанаў вытанчанай электроннай музыкі, якія ўжо на трэцім дзесятку гадоў знаходзяць водгук у сэрцах не ў аднаго мільёна слухачоў. Кожны іх новы альбом – гэта невялікі пераварот у свядомасці і мысленні многіх музычных крытыкаў і несумненна інтэнсіўны штуршок да развіцця і станаўлення ўласнага шляху іншых арыгінальных і нестандартнамыслячых музыкаў па ўсім свеце.

## Speak and spell

Першыя вытокі стварэння гурта вядуць пачатак з далёкага 1976 года, з горада Бэзілдон, які размяшчаўся ўсяго ў паўгадзіне язды ад Лондану, дзе жыў і вучыўся тады Vincent Clarke, які, дзякуючы сваім схільнасцям да музычных інструментаў і спевам у царкоўным хоры, заклаў і першы парастак да з'яўлення калектыву, разам з Эндрю Флетчэрам, з якім вучыўся ў школе. У тыя гады ў вялікай часткі насельніцтва была немагчымасць уладкавацца на працу, ды і правінцыйнасць гарадка не схіляла да якіх-небудзь вялікіх магчымасцяў і перспектыў.

Але на той момант назваўшыся No Romance in China, хлопцы гралі нешта ў духу The Cure, вядомых тады пост-панк музыкаў. Рэпетыравалі яны, як гэта звычайна і было, у гаражы ў Кларка. Праз некаторы час да гурта далучаецца Марцін Гор, які прыносіць новую назву Composition of sound. Пачынаецца рэгулярныя выступленні ў мясцовых клубах, але не вельмі ўдалыя. І на адным з такіх выступленняў Вінс заўважае за мікшэрным пультам Дэвіда Гэхэна, які, акрамя невялікіх гукарэжысёрскіх навыкаў, меў надрэнныя вакальныя дадзеныя.

Пасля некалькіх рэпетыцыяў Дэйв уліваецца ў склад чацвёртым. Ён адразу ўносіць змены ў назве і карэктывы ў саундзе. Цяпер гурт атрымаў назву Depeche Mode і робіць ухіл у сінтэзатарны бок. Потым былі запісаны паўнаякасны трэк "Photografic", які з'явіўся на складанке "Some bizarre". Дарэчы, ён быў выпушчаны аднайменнай фірмай у 1981 годзе. А пакуль музыкі граюць не толькі ў родным Бэзілдоне, але і выязжаюць з выступленнямі ў Лондан. І ў час чарговага "лайва" іх заўважыў прадзюсар і ўладальнік уласнага незалежнага лэйбла Mute Records Дэніэл Мілер. І з гэтага моманта (а менавіта з сакавіка 1981 года, калі ў калектыва на Mute з'явіўся першы поўнафарматны сінгл "Dreaming of me" "Ice machine") ведомасць і інтэнсіўныя аб'ёмы продажаў пачынаюць біць крыніцай.

Пасля выпуску яшчэ двух сінглаў 29-га кастрычніка 1981 году з'явіўся дэбютны дыск "Speak & spell". Дэбют проста не мог прайсці незаўважаным. Галоўнай іскрынкай, несумненна, стаў трэк "Just can't get enough". Як і чакалася, калектыў ахрысцілі піянерамі electro-pop і аўтаматычна далучылі да кірунку electronic new wave. Зразумела, ў канцы году аб калектыве загаварылі ўжо ўсе журналы і газеты, не кажучы аб тэлепраграме "Tops of the pops" у якой яны сталі героямі дня. Так гурт пачынае свае першыя замежныя гастролі па Даніі і Нямеччыне. Там Дэніэл Мілер становіцца першым менеджэрам і дапамагае хлопцам у студыйным абсталяванні. Для ўсіх прысутных на канцэртах – тры сінтэзатары, васьміканальны пульт, чатыры мікрафоны, узмацняльнік, стужка з запісам барабанных партыяў і рэверберaтар. Усё гэта здавалася нечым неўяўляльным і ні на што не падобным. І ў такі адказны момант здарыўся крызіс.

Вінс Кларк, які з'яўляўся асноўнай рухаючай сілай, выказаў нежаданне ў далейшым граць з гуртом і спыніў свой удзел у ім. Патлумачыў гэта расчараваннем у гастрольнай дзейнасці і дыскамфортам у звязку з нечаканай ведомасцю. Але пасля адыходу ён стварае дуэт Yazoo разам з Алісон Мойет, які распаўся ў 1983 годзе. А пасля ў 1986 годзе збірае Укфыгку, які існуе па сённяшні дзень. Адыход Кларка шакаваў усе музычныя СМІ, якія пачынаюць абмяркоўваць сітуацыю і прагназуюць Depeche Mode немінучую смерць. Але калектыў змяшчае ў газеце аб'яву аб пошуку музыкі, які добра валодае ігрой на сінтэзатарах. На яго адгукаецца Алан Уалдэр, які да гэтага скончыў музычную школу па класе фартэпіяна і паспеў набыць досвед ў некаторых джаз і блюзавых гуртах.

## A Broken Frame



Але вяртаемся да калектыву, які ў складзе трыо выпускае ў студзені 1982 сінгл "See you", першую вестачку з новага альбома, але замест захопленых водгукаў, у адрас гурта ляцяць негатыўныя рэчы наконт прабуксоўкі на адным месцы. Незважаючы на гэта, публіка вельмі цёпла сустракае сінгл, які добра прадэманстраваў кампазітарскія і песенныя здольнасці Марціна Гора і падняўся на 6 месца ў нацыянальным чарце. Летам 1982 году гурт вызваляе на нявызначаны час Алана ад сумеснай працы над гукам і адпраўляецца у студыю для запісу новага альбому, які выходзіць пад назвай "A broken frame". Гэтым удзельнікі гурта далі ўсім зразумець, што і ў якасці трыо яны моцныя, як і ў музычным плане, так і згуртаваныя як калектыў. Але крытыкі і на гэтым не супакоіліся. Наогул, калі казаць пра СМІ, дык ў першай палове 80-х гг. яны выказваліся аб DM так, што нават Майклу Джэксану не пажадаеш. Што тычыцца дыску, дык ў саундзе рэзка адчуваецца сур'ёзнасць, строгасць, стрыманасць і спакой, асабліва ў энергетыке песень.

**Працяг на zvon.at.tut.by**

**arctg**




## Драматычны тэатр

2 снежня – "Гэтыя вольныя матылі", меладрама ў 2-ух дзеяннях. Пачатак а 18:30

3 снежня – "Люці + Капітан =", гісторыя кахання ў 2-ух дзеяннях. Пачатак а 18:30

4, 18 снежня – "Прыдуркаватыя Журжэн", камедыя ў 2-ух дзеяннях. Пачатак а 18:30

5 снежня – "Пра тых, хто не баіцца", музычная казка ў 2-ух дзеяннях. Пачатак а 12:00

5 снежня – "Шалёныя грошы", камедыя ў 2-ух дзеяннях. Пачатак а 18:30

9 снежня – "Моцнае пачуццё", фарс ў 1-ым дзеянні. Пачатак а 18:30

10 снежня – "Калі б я ведала, што ты прыйдзеш – я б спякла табе пірог", меладрама ў 2-ух дзеяннях. Пачатак а 18:30

11 снежня – "Дон Хіль – Зялёна штаны", камедыя ў 2-ух дзеяннях. Пачатак а 18:30

12 снежня – "Кот у ботах", музычная казка ў 2-ух дзеяннях. Пачатак а 12.00

12 снежня – "Кім", крымінальная меладрама ў 2-ух дзеяннях. Пачатак а 18:30

16 снежня – "Сляпы, кульгавы і старая дзяўчына". Пачатак а 18:30

17 снежня – "Трамвай "жаданне", вечаровы блюз у 2-ух дзеяннях. Пачатак а 18:30

19 снежня – "Царэўна – жаба", казка ў 2-ух дзеяннях. Пачатак а 12:00

19 снежня – "Гэтыя вольныя матылі", меладрама ў 2-ух дзеяннях. Пачатак а 18:30

## "Радзіма"

6-12 снежня – "Чужы супраць драпежніка", ЗША, фантастыка. Пачатак а 18:00, 20:00, субота а 14:00, 16:00

6-8 снежня – "Высокая кроў", БЕЛАРУСЬ, драма. Пачатак а 12:00

9-12 снежня – "Нядзельная ноч", БЕЛАРУСЬ, меладрама. Пачатак а 12:00

13-15 снежня – "Кропка адліку", БЕЛАРУСЬ, баявік. Пачатак а 12:00

16-19 снежня – "Кветкі правінцыі", БЕЛАРУСЬ, меладрама. Пачатак а 12:00

20-26 снежня – "Весьегонская ваўчыха", Расея, вострасюжэтны фільм. Пачатак а 18:00, 20:00, субота а 14:00

27 снежня – 2 студзеня – "Шаша – 395", ЗША, крымінальны баявік-вэстэрн. Пачатак а 18:00, 20:00, субота а 14:00, 16:00

## "Ветразь"

1 снежня – адкрыццё рэтраспектывы французскага кіно ў Магілёве. "Фрэд", Францыя, трылер-дэтэктыў. Пачатак а 16:30

4 снежня – "Мой амерыканскі дзядзечка", Францыя, драма. Пачатак а 16:00

4 снежня – "Чао, паяц", Францыя, прыгодніцкі баявік. Пачатак а 14:00

5 снежня – "Шум і лютасць", Францыя, драма. Пачатак а 16:00

5 снежня – "Пурытанка", Францыя, прыгодніцкая драма. Пачатак а 14:00

8 снежня – "Глядзі, як падаюць людзі", Францыя, паліцэйская драма. Пачатак а 16:00

11, 12 снежня – "Нясцерпная лютасць", ЗША, рамантычная камедыя. Пачатак а 18:00

15, 18, 19 снежня – "Шаша – 395", ЗША, крымінальны баявік-вэстэрн. Пачатак а 18:00

22, 25, 26, 29 снежня, 2 студзеня – "Рэальнае каханне", ЗША, моладзевая камедыя. Пачатак а 18:00

## "Чырвоная зорка"

6-12 снежня – "Нябесны капітан і свет будучага", ЗША, фантастычныя прыгоды. Пачатак а 17:00, 19:00, 20:50, субота, нядзеля а 13:00, 15:00

13-19 снежня – "Прыстанак зла – 2", ЗША, фантастычны экшн-трылер. Пачатак а 17:00, 19:00, 20:50, субота, нядзеля а 13:00, 15:00

20-26 снежня – "Скарб Амазонкі", ЗША, прыгоды. Пачатак а 17:00, 19:00, 20:50, субота, нядзеля а 13:00, 15:00

27 снежня – 2 студзеня – "Алёша Паповіч і Змей Гарыныч", Расея, казачны мультфільм. Пачатак а 10:00, 15:00, 17:00, 19:00, 20:30

**Ксенія Савіцкая**

# Як сапсаваць свята сабе і іншым



**На навагодняй дыскатэцы вы захацелі здзівіць усіх абновою, але бацькі ўпарта адмаўляюцца даць грошай. А раз, як лічыце вы, вам няма чаго апрануць, увогуле нікуды не ідзіце. Зачыніцеся ў пакоі і ўсім сваім выглядам дэманструйце смутак ды пакрыўджанасць (пажадана на працягу некалькіх дзён).**

1. Пры арганізацыі навагодняга свята для сяброў ні ў якім разе нічога нікому не даручайце. У апошні перадсвяточны дзень смела ўзвальвайце на свае плечы ўсе клопаты: паход па крамах, падрыхтоўку навагодняга стала, упрыгожванне памяшкання. Вы вытрымаеце, але а дзесятай гадзіне ўжо захочаце спаць. Стомленасць ды змораны выгляд не дадуць добрага настрою ані вам, ані запрошаным. Затое хто-небудзь, дзеля падтрымання размовы, абавязкова прамовіць: "А блінцы былі смачныя!"

2. Над спісам запрошаных асабліва не раздумвайце. Прысутнасць вялікай колькасці малазнаёмых, а то й незнаёмых людзей разнастаіць свята. Толькі не варта здзіўляцца, калі за сталом сустрэнуцца два заклятыя ворагі і пачнуць высвятляць адносіны. Калі разам з навагодняй ночкай сыдуць ў нябыт мабільнік і залатыя пярсцёнкі. Калі некалькі нецвярозых гасцей будуць знаходзіцца ў такім стане на працягу двух дзён і ўпарта адмаўляцца пакідаць вашую кватэру ажно да прыходу бацькоў.

3. Смела піце гарэлку і шампанскае! Лепей змяшаць напоі разам. Ночка ў абдымку з унітазам і галаўны боль забяспечаныя. Пасля такога свята можна будзе пахваліцца ўсім аднакласнікам: "Добра пагулялі! Ні халеры не памятаю!"

4. Крый Божа нехта перасаладзіў кампот або забыўся купіць зялёнага гарошку для святочнага стала! Неадкладна правядзіце расследванне: чаму так адбылося і хто асабіста ў гэтым вінаваты. Некалькі разоў нагадайце нядбайным сябрам пра іхнюю віну, папракніце за неналежнае стаўленне да даручанага.

5. Запальванне бенгальскага агню прама ў кватэры побач з ялінкаю – цудоўны спосаб заняць гасцей на працяглы час. Спачатку загарыцца вата і папяровыя гірлянды, потым фіранкі на вокнах. Майце на ўвазе – у навагоднюю ноч часта адключаюць ваду. Нават калі да пажарных справы не дойдзе, на ліквідацыю ўзгарання і ягоных наступстваў спатрэбіцца не адна гадзіна.

6. Вазьміце сабе за правіла абавязкова хадзіць у госці з бацькамі да іхніх сяброў ды знаёмых. Там вы добра пад'ясцё і даведаецеся пра кошты на каўбасу ў фірмовай краме саўгаса-камбіната "Усход", спосабы лячэння радыкуліту, пра памеры квартальнай прэміі дзядзі Васі, цёці Любы і ўсяго працоўнага калектыву іхняга прадпрыемства.

7. Рэжым дня на канікулах цалкам павінен быць падпарадкаваны праграме тэлеперадачаў. Не прапускайце песняў Алы Пугачовай, індыйскага фільму, тры разы прагледжанага. Пры такім раскладзе вы заўсёды будзеце тырчэць дома і без сумневу знойдзеце агульную тэму для размоваў з бабулькамі вашага двара.

**Дабразычлівец**

Культура мовы

# Што льём?

**Не раз і не два мне, дый вам усім даводзілася чуць: "Падлівае масла ў агонь!"**

Выслоўе гэтае так ужылося ў наш побыт, што мы не ўдумваемся ў сэнс ягоных словаў. Але давайце задумаемся: як гэта можна масла падліваць? Падліваць можна штосьці вадкае. А хіба ж масла вадкае?

Вось тут я мусіў задумацца, а ці сваёй карыстаемся мы прымаўкай? Гэта расейцы называюць і масла маслам, і алей у іх масла. Вось, мабыць, калі мы чуем прымаўку: "падліваць масла ў агонь", - павінны разумець, што льюць у агонь алей.

З гэтым "маслам" у нас была ўжо не адна прыкрасць.

Як вядома, у мастакоў ёсць шмат розных сродкаў, прыёмаў выяўлення сваіх задумаў. На іхніх творах часта пазначаецца, апрача назвы, і сродак малявання. Напрыклад, вугаль, туш, алоўак…

Не гэтак яшчэ даўно нашыя беларускія мастакі карысталіся і словам "масла". Але больш свядомыя з іх спахапіліся. "Пра якое масла гаворка? Фарба ж расціраецца ў алеі… Маем мы алейны партрэт, алейны жывапіс, алейную фарбу…" І пачалі з тае пары мастакі паслядоўна і настойліва высцерагацца слова "масла" і пісаць толькі "алей".

Мусіць, гэтую ж папраўку трэба зрабіць і ў прымаўцы. Яна панашаму павінна гучаць: "Падліць алею ў агонь!" Ці не так? Тым не менш, у нашым беларускамоўным друку скрозь чытаем пра тое "масла".

Само ж выслоўе "падліць алею ў агонь" сягае ў сівую даўніну. У 65-м годзе да новай эры ім ужо карыстаўся Гарацый у сваёй "Трэцяй сатыры" з тым самым значэннем, з тым самым сэнсам, якім мы карыстаемся сёння, - узмацняць спрэчкі, сваркі, падахвочваць, распальваць непрыязныя пачуцці, варожасць.

**Руплівец**

**"ВАМПІРЫСТЫКА"**

## МАЯ ВАМПІРКА

Ночкай чорнай, як капірка,
прыляці, мая вампірка,
ціха сядзь пад абажур
і ўсадзі ў мяне кіпцюр.

Позірк кінь напаўдэбільны,
блісні ўсмешкай бензапільнай,
і дыхні мне ў сонны твар
характвом балотных чар.

Прыляці, мая вампірка!
Пракусі ўва мне дзьве дзіркі,
каб з мяне лілася кроў,
каб я крыкам дзікім роў!

**"АБСУРДЫСТЫКА"**

Здаецца мне, што я не я,
што ўсё ўва мне не ўсё дарэшты,
што не ўва мне твая мая,
а недзе там, таму што нешта.

Таму што мне туды дзе што
адкуль дагэтуль незаўсёды,
бо там і тут не абы-што
бо тут і там не тое-сёе…

**Віктар Жыбуль**

# Зіма

**Зіма… Асенняй пазалоты
Не засталося і сляда,
А ў сэрцы хоць жыве журбота,
Але ўсё гэта - не бяда.**

**Сняжынкі кветкамі льдзянымі
Ляцяць, як матылькі, на дол.
Гуляй і бегай разам з імі,
Не бойся і выходзь на двор.**

**Там знойдзеш ты сяброў багата:
Тут лыжы, санкі, снегуркі…
Ты весяліся каля хаты,
Бяры сняжок у дзве рукі!**

**Мы зробім бабу снегавую,
Нам пазайздросцяць дзеці ўсе.
Забаву для сябе такую
Не знойдзеш, дружа, павясне.**

**Ну што, ці знікла сумаванне?
Пад вечар ты вясёлы стаў.
Цяпер каб зімкі панаванне
Ты з радасцю і сустракаў!**

**Надзея Лапкіна**

**P.S.** Часам гэта вельмі карысна - адчуць сябе дзіцём. Не заўсёды ж толькі пра каханне пісаць…



# Гумар у нумар

**Класны кіраўнік:**

**- Дзеці, хутка ў нашай школе навагодні баль-маскарад. Хто кім хоча быць?**

Пятрок: **Я – зайчыкам!**

Маша: **Я – вавёрачкай!**

Вовачка: **А я злыднем буду! Лягу пад ялінку і вам усё свята сапсую.**



**Напішы ліст Дзеду Марозу www.dedmoroz@podarkov.net**

**Студэнт (глытнуўшы спрайту) кажа рэктару:**

**- Гэта не вас учора бачылі ў рэстарацыі з бландзінкай?**

**Голас за кадрам:**

**- Ілля Іваноў – будучы радавы Беларускай арміі.**



**Каляды. Негрыцянская сям'я сядзіць за сталом. Грукат у дзверы. Маленькі негрыцёнак пытае:**

**- Хто там?**

**- Адчыняй, гэта Ку-Клус…цьфу… Санта-Клаус!**

**У «Мэрсэдэс» уразаецца «Ака». З «Мэрсу» вылазяць крутыя браткі, падыходзяць да «Акі». Глядзяць, а там сядзіць Снягурка. Яны і кажуць:**

**- Ну, ты патрапіла. Чым плаціць будзеш?**

**- Не хвалюйцеся, хлапцы, зараз я пазваню Дзеду Марозу, ён прыедзе, разбярэцца.**

**Бярэ мабілу, нешта гаворыць. Праз дзесяць хвілінаў прыязджаюць чатыры джыпы, адтуль вывальваюцца дзесяць такіх самых браткоў і збіваюць тых. Адзін з пабітых падпаўзае да «Акі» і кажа:**

**- Чуеш, ты ж казала, што Дзед Мароз прыедзе.**

**- А ён заняты зараз і сваіх адмарозкаў прыслаў.**

**Надпіс на браме: "Сабака – сябар! Але не кожнага чалавека!"**

**Выдатны нагляд майго знаёмага гандляра, зроблены ім 1 студзеня: «Раніцай у краме зусім нікога не было… потым пацягнуліся дзеці з санатоўкамі».**

**Біржа. Зверху, вокнамі на залу - пакой. Тры брокеры. Дзве носіцца, па тры тэлефонныя трубкі ў руках, гарлапаняць:**

**- Даводзь да двух! Бяры! Скідвай дзесяць і здавай! Чатыры ўніз!...**

**Адзін, летуценна гледзячы ў акно:**

**- Снег ПАДАЕ… (секундная паўза)**

**- Прадавай!!!**

**Клаусафобія - боязь Дзеда Мароза.**

**Аднойчы ў школу на ялінку Дзедам Марозам запрасілі не прафесійнага актора, а звычайнага хлопчыка. Акрамя ўсіх іншых слоў, у сцэнары былі і такія:**

**- Седаўлас, чырвоны нос, хто я, дзеці?**

**На што дзеці павінны былі радасна адказаць:**

**- Дзед Мароз!**

**Як гэта звычайна і бывае ў такіх выпадках, у хлопчыка, г. зн. Дзеда Мароза, заглючыла аператыўная памяць, і ён выдаў:**

**- Чырвоны нос і седаўлас, хто я, дзеці?**

**Натуральна, тут жа знайшлося маладое дараванне, якое і падказала запаветнае словы.**

**Як Новы год сустрэнеш, так табе і трэба!**

**Падрыхтаваў В. Р.**

Звон
Магілёўскі школьны штомесячнік.
Заснавальнік:
МА МГА "Гісторыка"
Выдаецца на беларускай мове.
Распаўсюджваецца бясплатна.

Галоўны рэдактар: Віталь Ругайн
Карэктар: Віталь Цішкоўскі.
Набор: V&V.
Дызайн: Віталь Цішкоўскі
Кампутарная вёрстка: Віталь Ругайн

Думкі, выказаныя аўтарамі допісаў, могуць не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі. За дакладнасць інфармацыі адказвае аўтар. Рэдакцыя мае права скарачаць тэксты і правіць мову.
Ліставанне з чытачамі - толькі на старонках газеты.


Адрас для допісаў: 212022, Магілёў, а/с 62.
e-mail: zvon@tut.by
http:\\zvon.at.tut.by

8 старонак. Фармат А-3.
Наклад 200 асобнікаў.
Падпісана ў друк а 16:00 28.12.2004